# Тыднёвік Магілёўскі




№ 15 (130) 12 – 18 кастрычніка 2001 г. Кошт 80 руб.


## Вайна супраць тэрарызму пачалася





Фота IREX

*Прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі Буш аб'явіў у мінулую нядзелю пра пачатак вайсковай апэрацыі па зьнішчэньні лягераў шкаленьня тэрарыстаў і вайсковых аб'ектаў рэжыму талібаў у Афганістане. Адначасна змаганьне з сусьветным тэрарызмам будзе весьціся дыпляматычнымі, эканамічнымі ды іншымі сродкамі.*

*Адбылося тое, на што сьвет чакаў пасьля 11-га верасьня, калі адбыліся тэракты ў Вашынгтане й Нью-Ёрку. Увесь гэты час кіраўнікі разьвітых дэмакратычных краінаў асабліва падкрэсьлівалі, што ўдары ЗША і саюзьнікаў будуць скіраваныя ня супраць ісляму, мусульманскага сьвету ці народу Афганістану, а супраць тэрарыстычнай інфраструктуры й саміх тэрарыстаў. Цяпер так і адбываецца. Адначасна з паветра скідваюцца тоны гуманітарных грузаў для патрэбаў цывільнага афганскага люду.*

*Увесь гэты час асобныя краіны й іхныя ўрады, як і Зьвязы розных краінаў, вызначаліся з сваёй пазыцыяй (ці не даўжэй за ўсіх і тое не да канца, бо маўчыць Лукашэнка, рабіў гэта наш рэжым).*

*Паводле справядлівых словаў Д.Буша, цяпер ня можа быць нейкага трэцяга шляху: ці вы з тымі, хто змагаецца супраць тэрору, ці вы на баку бандытаў. Больш за 40 краінаў сьвету тым ці іншым чынам удзельнічаюць у вайсковай апэрацыі Злучаных Штатаў. Выказалася на карысьць такой апэрацыі нават кіраўніцтва Пакістану, якое падтрымлівае дыпляматычны кантакт з талібамі. Чаму ж марудзіў беларускі рэжым, чаму не вітаў рашучыя паводзіны Крамля ў гэтай справе, хаця звычайна першым падтрымвае ўсё, што адтуль зыходзіць?..*

*Падаецца, што для таго, каб апынуцца ў цяжкую гадзіну на баку Дабра, трэба папросту быць там раней. Ці, прынамсі, мець мужнасьць у патрэбны момант зрабіць палітычны валявы крок. Замінаць гэтаму могуць шчыльныя кантакты афіцыйнага Менску з адыёзнымі арабскімі рэжымамі, асабліва ў сфэры вайсковага супрацоўніцтва. Вось й днямі сталася вядома, што ў Менск прыехала група афіцэраў іракскага войску, каб набыць неабходных ведаў пра абслугоўваньне супрацьракетнага комплексу СС-300. Даволі вяла абвяргае гэты факт Міністэрства замежных справаў. І калі гэтая стажыроўка сапраўды мае месца, дык бракуе словаў, каб халодна ацэньваць такую палітыку. (Садам Хусэйн, дарэчы, той на сёньня адзіны кіраўнік у сьвеце, хто зганьбіў ваенную атаку ЗША і Вялікай Брытаніі на базы тэрарыстаў у афганскіх гарадах)...*

*Сёньня падаецца, што дзяржаўныя рэжымы й іхныя лідэры каапэруюцца не паводле геаграфічнага становішча, гісторыі ўласных народаў ці нават рэлігіі й расы, а менавіта паводле свайго стаўленьня да Дабра і Зла. Жыцьцё канкрэтнага, прыватнага чалавека, яго правы, пэрспэктывы вольнага разьвіцьця асобы, яе абароненасьць перад дзяржаўным мэханізмам, – вось пра што клапоціцца тыя, хто выступае на баку Дабра. Адпаведна, пазасталыя кіруюцца зусім іншымі інтарэсамі, і палітыка, якую яны праводзяць, патрабуе перш за ўсё шмат грошай на ўтрыманьне ўласных карных органаў і на набыцьцё ўзбраеньняў.*

*Трэба, каб усе мы глыбей разумелі, як адаб'ецца на нас падобная палітыка. Бо тут ужо не вядзецца нават пра памеры заробкаў, пэнсіяў ці выжываньне "гігантаў сацыялістычнай індустрыі". Гаворка пра іншае: пра падставовыя пянцьці самой чалавечай існасьці. Пра разуменьне пераваг свайго знаходжаньня й працы на баку Дабра, і сваёй адказнасьці – цяпер ужо непасрэднай – за выжываньне ўсёй плянэты.*

**Віктар СУДНІК**

**P.S. Працяг тэмы на 8-й старонцы.**

## Што ў Курапатах сёньня

***Штотыднёвік, якім ёсьць "ТМ", не пасьпявае за імклівай зьменай падзеяў вакол грамадзкай абароны Курапатаў. Яны ж працягваюць уплываць на ранейшы плян і тэрмін пабудовы сталічнай кальцавой дарогі. Грамадзкая ініцыятыва дамаглася перамоваў з праектантамі і будаўнікамі, прыцягнула ўвагу навукоўцаў, дэпутатаў, дзяржаўных асобаў да факту зьдзеку над сьвятым месцам Памяці. Што ж у Курапатах сёньня?***

Уздоўж кальцавой аўтамагістралі на гэтым участку распачаліся і працягваюцца археалягічныя раскопкі, якія праводзяць супрацоўнікі гісторыі Акадэміі навук Беларусі пры дапамозе Маладога Фронту, "Зубра" ды іншых арганізацыяў.

Цяпер абаронцы Курапатаў раскопваюць трэці аб'ект з вызначаных 12-ці. Прадстаўнікі Інстытуту гісторыі пад кіраўніцтвам Алега Іова паказваюць маладым людзям, дзе трэба капаць. Раскопваюць звычайнымі рыдлёўкамі. Спачатку капаюць яму парадкам 1,5 мэтры, пасьля капаюць кантрольны шур – невялікую яміну глыбінёй 3 мэтры, а то й болей. Мэта раскопкаў – засьведчыць наяўнасьць тут чалавечых пахаваньняў, якія могуць у выніку будаўнічага праекту зьнікнуць бясьследна.

Радыкальныя мэтады спыненьня ў Курапатах шасэйнай працы ўжылі днямі некалькі актывістаў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ. Ноччу яны выкапалі пастаўленую будаўнікамі жалезную агароджу й зьнялі ахоўную стужку ў раёне поля крыжоў, перад уваходам у Курапаты, якой была вызначаная мяжа будучай плянаванай дарогі. Прадстаўнік "Магістральаўтадару" Анатоль Лыцін абвінаваціў КХП – БНФ у парушэньні дамоўленасьцяў паміж уладамі і грамадзкай ініцыятывай "За ўратаваньне Курапатаў". Аднак сябры партыі заявілі, што не дапусьцяць пашырэньня дарогі, а таму вызначэньне ейных межаў усё роўна ня мае сэнсу.

***Альгерд НЕВЯРОЎСКІ***




Фота IREX



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

По ўсёй вобласьці амаль штодзённа выкрываецца хаця б адзін выпадак незаконнага вырабу, збыту альбо выкарыстаньня наркотыкаў. Самы папулярны наркотык у Бабруйску, напрыклад, – гэта мераін. Колькасць наркаманаў у вобласьці за некалькі гадоў узрасла ўтрая, і афіцыйна іх у нас сёньня 675 чалавек. Натуральна, што прагназаваньне на будучыню выглядае вельмі пэсымістычна: падобную бяду ў стане пераадольваць толькі эканамічна і культурна моцнае грамадзтва. Даволі хутка могуць прыйсьці часы, калі статыстыка будзе канстатаваць згаданыя вышэй выпадкі не штодзённа, а штогадзінна.

Мы ўжо паведамлялі, што ў нашай вобласьці – найвышэйшы ўзровень спажываньня сьпіртовых напояў. Зараз колькасьць хранічных алькаголікаў узрасла да 17-ці тысячаў чалавек. На ўліку ў наркадыспансэрах знаходзіцца 3.000 чалавек. 70% усіх цяжкіх забойстваў ды ўвогуле кожнае трэцяе злачынства ажыцьцяўляецца пад узьдзеяньнем алькаголю. Гэтыя лічбы агучыў абласны міліцэйскі начальнік І.Сяргей. Што далей будзе?..

Старшыня аблвыканкаму Б.Батура запэўніў, што ў хуткім часе амаль усе запазычанасьці па заробках будуць пагашаныя. Адкуль возьмуцца больш за 4 мільярды рублёў, якія завінаваціліся цяпер працоўным? Мяркую, што як заўсёды – з аднаго месца перакінуць на другое. Напрыклад, грошы на абнаўленьне вытворчай базы і пад набыцьцё сыравіны будуць літаральна "з'едзеныя". Але і ў такім выпадку на ўсіх ня хопіць. Асабліва на вёсцы. Паводле таго ж сп.Батуры, 3-4 гаспадаркі ў кожным раёне ўсё роўна ня здолеюць зь людзьмі расплаціцца. А гэта прыкладна 80 гаспадарак, альбо некалькі тысячаў чалавек! Максімум, на што яны могуць разьлічваць – на выплаты ў памеры мінімальнага спажывецкага бюджэту. Як тым людзям пражыць на хлебе і вадзе ды не хварэць пры гэтым? Адказу ў начальства няма.

Паводле зьвестак абласнога ўпраўленьня сельскай гаспадаркі, з пачатку года здохла 25,5 тыс. галоў ската. Асноўная прычына, якую называюць чыноўнікі – не хапала кармоў і было дрэннае надвор'е. Ці не надакучылі ўжо "трывалыя" тлумачэньні? Уявіце сабе, каб на нейкай прыватнай фэрме, ці хоць бы ў нейкім сельгасраёне любой эўрапейскай краіны здохла б 25.000 жывёлін! Такое магчымае хіба толькі ў выніку знакамітага жывёльнага шаленства ці нават як наступства тэракту. А ў нас – кармоў не хапіла, вялікі додж ліў ці вецер нечакана наляцеў. Вельмі кароваў шкада...

Паводле намесьніка старшыні гарвыканкаму А.Кавалёва, аўтобусны парк горада скараціўся амаль на траціну. З 209-ці "жывых" машын чвэрць штодня рамантуецца. Страты ад таго склалі з пачатку года амаль 200 млн. рублёў. Ня лепш і з тралейбусамі. Палова іх ужо адпрацавала свой рэсурс і ходзіць на "чэсным слове" тэхнікаў. На 50-70% зношаныя кабельныя камунікацыі. Транспартнікі заціснутыя паміж аб'ектыўнай неабходнасьцю ўзьнімаць кошты і "сацыяльнай" палітыкай кіраўніцтва краіны. А цярпім, як заўжды, мы – пасажыры.

Генэральны дырэктар АТ "Магатэкс" (колішні КШТ) заклікаў не драматызаваць сытуацыю з нагоды месяцовага спыненьня працы прадпрыемства. Маўляў, усё ідзе згодна з плянам, бо неабходна зрабіць рэмонтна-ўзнаўляльныя работы. Між тым некаторыя лічбы прымушаюць крыху засумнявацца ў нармальнасьці працэсу. Напрыклад, асноўны пастаўшчык сыравіны, МВА "Хімвалакно", назапасіла на складах да 1.000 тонаў нітак, якія звычайна набывае "Магатэкс". Так што сыравіны больш чым хапае. А вось грошай, каб яе набываць, альбо пакупнікоў, каб збываць выробленае... – вось тут і хаваюцца праблемы. Пры гэтым трэба адзначыць, што "Магатэкс" – гэта моцнае і запатрабаванае прадпрыемства, якое, хутчэй за ўсё, дасьць сабе рады. Але крызыс сёньня падыходзіць да кожнай прахадной...

У Мсьціслаўе невядомыя скралі з помніка Пятру Мсьціслаўцу ягонае імя. Яно важыла больш за 5 kg і было з чугуна "пад бронзу". Увогуле, помнік гэты быў зроблены за пару месяцаў у выніку келейнага "конкурснага адбору". Прыкладна з тымі ж пачуцьцямі потым улады наладжвалі й "сьвята беларускага пісьменства". Мо таму ніякага грамадзкага хваляваньня ў старажытным горадзе адзначана не было. Магчыма, што й сам факт крадзяжу заўважылі толькі пільныя журналісты.

Магілёўскія фотамастакі Мірон Шчудло і Валеры Саўчанка атрымалі галоўныя прызы на 7-ым Міжнародным фотасэмінары, які прайшоў блізу Адэсы на Ўкраіне. Рэпрэзэнтавалі яны вядомую ў нас студыю "3 Plus", якая, дарэчы, таксама была прызнаная лепшай студыяй-клюбам. Уладальнік вышэйшага званьня Міжнароднай фэдэрацыі фотамастацтва "Эксэлэнц" М.Шчудло атрымаў прыз за лепшую фотакалекцыю, а ягоны калега В.Саўчанка перамог у конкурсе асобных працаў. Віншуем мастакоў!

*Да сустрэчы праз тыдзень,*
*Сымон Глазштэйн.*

**ВЫБАРЧЫ РОЗГАЛАС**

## Даказаць сваю законнасьць не ўдалося

***У Партугаліі на паседжаньні Пастаяннага камітэту Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ днямі разглядалася "беларускае пытаньне".***

Выступілі некалькі дакладчыкаў, бо разглядаліся і апошнія выбары прэзыдэнта, і сытуацыя зь сяброўствам Беларусі ў ПА АБСЭ. У Партугалію ад апазыцыі прыехалі Анатоль Лябедзька, намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, і ягоны намесьнік у партыі Яраслаў Раманчук. "Палату" прадстаўлялі Чаргінец, Ваганаў, Бікінін ды іншыя. Абедзьве дэлегацыі паасобку сустрэліся са старшынём ПА АБСЭ Адрыянам Севярынам, які заявіў, што паўнамоцтвы Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня на гэты момант скончыліся, а што тычыцца прызнаньня "палаты", дык найперш афіцыйны Менск павінен зрабіць пэўныя крокі.

Віцэ-прэзыдэнт ПА АБСЭ Кіма Кюленен, які таксама меў слова на сэсіі, зазначыў, што выбары 9-га верасьня былі недэмакратычнымі, а таму іхныя вынікі прызнаць нельга. Але й ён паўтарыў сваё ранейшае выказваньне аб тым, што ня трэба зусім ізаляваць Беларусь.

На баку нашай "палаты" у ходзе сэсіі былі прадстаўнікі Расеі, Казахстану ды Таджыкістану, аднак унесьці "беларускае пытаньне" у парадак дня не ўдалося. Найбольш пераканаўча запярэчыў прадстаўнік Славаччыны, які нагадаў, што ў ПА АБСЭ прымаюцца ня проста парлямэнты розных краінаў, а тыя парлямэнты, што выбраныя дэмакратычна і законна.

Да "беларускага пытаньня" цяпер вырашана вярнуцца толькі ў лютым наступнага году.

***Юры СЬВІРКО***



Фота IREX

## Хто яшчэ ня скардзіўся?..

***Вярхоўны суд Беларусі адмовіўся разглядаць скаргу Беларускага Хельсінскага Камітэту, у якой той патрабаваў прызнаць мінулыя прэзыдэнцкія выбары несапраўднымі.***

Тое, што вынікі выбараў трэба адмяніць, БХК даказваў у сваёй скарзе на падставе больш як 1000 фактаў. Але Вярхоўны суд не пажадаў разьбірацца ў стосе сабраных праваабаронцамі папераў, а вырашыў, што скардзіцца ім няма на што, бо "рашэньня аб непрызнаньні вынікаў выбараў Цэнтральная камісія не прымала". Больш як тыдзень таму аналягічным чынам адмовілі ў разглядзе скаргі кандыдату на прэзыдэнта Ўладзімеру Ганчарыку.

Выканаўчы дырэктар БХК Алег Гулак лічыць, што гэтым судзьдзя Валеры Самалюк, які падпісаў адмову, засьведчыў бездапаможнасьць Вярхоўнага суду ў барацьбе з фальсыфікатарамі выбараў. Ён сьцьвярджае, што з цытаты артыкулу Выбарчага кодэксу, на які спаслаўся судзьдзя Самалюк, зьнік цэлы сказ, які прадугледжвае права грамадзянаў абскарджваць любыя рашэньні ЦВК, у тым ліку і аб прызнаньні выбараў.

БХК плянуе зараз зьвярнуцца ў Камітэт правоў чалавека ААН, які можа разглядаць скаргі грамадзянаў Беларусі аб парушэньні пакту "Аб грамадзянскіх і палітычных правах", у прыватнасьці, права на судовую абарону парушаных правоў.

***Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ***

## Можна пасварыцца і... застацца сябрамі

***"ЗША ды іхныя саюзьнікі ня могуць прызнаць вынікі выбараў у Беларусі", – заявіла памочніца дзяржаўнага сакратара ЗША ў эўрапейскіх справах Элізабэт Джоўнз.***

Яна дадала, што Вашынгтан працуе зь іншымі краінамі, у тым ліку з Расеяй, для разьвязаньня беларускай праблемы. У ейнай заяве зазначаецца, што беларускія прэзыдэнцкія выбары 9-га верасьня не адпавядалі міжнародным стандартам: "Лукашэнкаў рэжым ня здолеў выканаць чатыры крытэры, вызначаныя летась парлямэнцкай "тройкай" АБСЭ. Ён перасьледаваў лідэраў апазыцыі, не даваў свабоднага доступу да дзяржаўных мэдыяў, вызначаў склад выбарчых камісіяў, забараняў дзейнасьць групаў унутраных назіральнікаў і перашкаджаў працы Бюро дэмакратычных інстытуцыяў і правоў чалавека АБСЭ ды іншых міжнародных назіральнікаў".

Спадарыня Джоўнз дадала, што ЗША вельмі заклапочаныя з прычыны "вартых даверу паведамленьняў пра арганізаваны Лукашэнкавым рэжымам эскадрон сьмерці, адказны за, як паведамляецца, 30 забойстваў, улучна з забойствамі трох сяброў апазыцыі ды журналіста".

Яна нагадала таксама, што Злучаныя Штаты ўжо заклікалі ўрад Беларусі правесьці пільнае, незалежнае расьсьледаваньне публічных абвінавачваньняў, зробленых двума былымі пракурорамі ды жонкамі зьніклых і ўвязьненых апанэнтаў Лукашэнкі. "Мы ўспрымаем гэтыя абвінавачваньні вельмі сур'ёзна", – зазначыла Э.Джоўнз.

Тым часам у Вене адбылося паседжаньне Сталае рады АБСЭ, дзе быў заслуханы даклад кіраўніка КНГ АБСЭ ў Беларусі Ганса-Георга Віка. Пасьля сталася вядомым, што афіцыйны Менск пагадзіўся на працяг працы місіі АБСЭ ў Беларусі, нягледзячы на неаднаразовыя публічныя заявы Лукашэнкі пра тое, што праца КНГ сябе вычарпала.

***Юры СЬВІРКО***

## Аб нядаўнім, бягучым і бліжэйшым

***Заўтра, у суботу, абласны цэнтар маюць наведаць кіраўнік грамадзкага руху "За новую Беларусь" Васіль Лявонаў і кіраўнік сеткі незалежнага назіраньня падчас нядаўніх беларускіх выбараў Мячыслаў Грыб.***



Яны маюць намер сустрэцца зь мясцовым актывам выбарчай кампаніі, каб разам шчыра прааналізаваць уласныя памылкі дэмакратычнай кааліцыі, а таксама вызначыць лёс сабранага матэрыялу аб парушэньнях з боку ўладаў выбарчага заканадаўства. Мяркуецца, што ўвага на сустрэчы будзе нададзеная пытаньням абароны многіх актывістаў кампаніі, якія гэтым часам зазналі службовы, адміністратыўны, а тое й крымінальны перасьлед з боку найбольш агрэсыўных прыхільнікаў і ахоўнікаў цяперашняга рэжыму. Зразумела, што гаворка пойдзе пра разьвіцьцё і пашырэньне грамадзкага руху "За новую Беларусь", які паўстаў падчас выбараў нечакана – але рэальна – як для многіх палітычных сілаў, так і для ўлады.

***Уласная інфармацыя***

